БЕЛАРУСКІ
# ЛЕТАПІС
Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

№ 1 СЬНЕЖАНЬ 1936 г. ГОД I





ЯКУБ КОЛАС

Беларускі Народны Поэт.

## Спыненьне дзейнасьці Беларускіх Культурна-Прасьветных Т-ваў.

Пастановаю Віленскага Гарадзкога Старасты дня 2 сьнежня 1936 году спынена (завешана) дзейнасьць Т-ва Беларускае Школы, а дня 4 сьнежня таксама спынена дзейнасьць Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

---

ЗЬМЕСТ:



---


**СКЛАДКІ:** 3 зл. 60 гр. на год; 1 зл. 80 гр. на паўгода; асобны нумар 50 гр.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вуліца 3-8.

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТЭРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК

№ 1 Сьнежань 1936 Год I

## Ідэя волі ў поэзіі Якуба Коласа.

*(З нагоды 30-летняга юбілею літэратурнай творчасьці).*

Купала і Колас, як два волаты, стаяць над крыніцамі навейшае беларускае літэратуры.

Адзін — парывісты, з шырокім размахам творчае мысьлі, запаляе магутнымі, сьмелымі вобразамі, кідае звонкімі вершамі і, як прарок, кляйміць „ворагаў беларушчыны“, — другі — чаруе сваей мяккай лірай, гармоніяй свайго духа, сваім мудрым эпосам, які, здаецца, зьлівае поэта з беларускай прыродай і навакольным жыцьцём працоўнага народу.

У хвіліны нацыянальнае трывогі Колас таксама, як і Купала, выбухае грознай дынамікай свайго вялікага духа, змушае змоўкнуць і сьціхнуць „песьню пакуты“, кліча народ да вялікай справы каваць долю ўласнымі рукамі.

Перад прыходам Купалы і Коласа ў беларускай літэратуры найгаласьней плакала „смутная жалейка“ Багушэвіча, плакалі яго вочы „што-дзень і што-ночы“ над цяжкай доляй народу, над яго выміраньнем.

І ўзапраўды было ад чаго заплакаць.

З аднаго боку яшчэ крывавілі сьвежыя раны на целе народным ад парваных ланцугоў прыгону, які пакінуў свой нявольніцкі сьлед у народнай псыхіцы; з другога — прыгоншчыкі разам з царскім урадам дапасоўвалі Беларускаму Народу новыя путы эканамічнага і нацыянальнага рабства.

Вызвольны рух паняволеных народаў адказаў на гэта падзеямі 1905 году.

Тут ужо не на мейсцы былі-б сьлёзы „над народу сконам“, бо народ абудзіўся. Прышлі новыя песьняры і запялі новыя песьні. Купала звоніць усяму сьвету з высокай вежы-званіцы, што і мы лапцюжныя хочам „людзьмі звацца“, „годзе зімовага рабскага сну“!. Колас кідае поклічы да жывых і чулых сэрцам ісьці да Народу і сказаць горкую праўду ў вочы —

Чаго ён гаруе, чаго?!

Яны сталі каля глыбокіх крыніц Народнага Адраджэньня і чэрпаюць жывую воду, тую воду,

Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.

Вось адкуль вялікая Ідэя Волі бурлівым ручаём прарываецца з творчага натхненьня Купалы і ціхім срэбраводным звонам струменіць свабодная ў Якуба Коласа.

---

Радзіўся Колас*) у 1882 годзе 22 кастрычніка ў засьценку Акіньчыцах, Стаўпецкага павету. З самага раньняга дзяцінства ён бачыў многа крыўднага і несправядлівага ў адносінах паноў да лясьніка, якім быў бацька поэты. Гэтыя назіраньні ранілі маладую ўражлівую душу. Поэта ад самага дзяцінства пачынае варожа глядзець на пана, і гэткае пачуцьцё да паноў з часам яшчэ больш узмацняецца.

Затое вольная прырода была для поэта жывотворчай крыніцай, якая, нібы казачная жывая вада, ратавала маладую душу ад путаў паднявольнага жыцьця. Вербы над крыніцаю і дубы над Нёмнам, лес каля хаты, які „лужком зялёным разрываўся“, і здольныя песьні дзяўчат, „буйныя росы“ на сенажаці і „тая ранічка на полі“, — усё гэта будзіла маладую радасьць і калыхала ў сэрцы жывыя вольныя струны душы.

Цяга да свабоднага жыцьця, якая заўсёды зьвязана ў поэты з беларускаю прыродай, праходзіць праз усю поэзію Я. Коласа, пачынаючы ад яго лірыкі і канчаючы монумэнтальнымі творамі, як „Сымон Музыка“ і „Новая Зямля“. Поэта, як рэха, дае водгук на ўсе зьявы сусьвету, поэта — і асабліва такі чулы лірык, як Колас — ня можа моўчкі абыйсьці паняволеньня свайго і свайго Народу.

Писатель, если только он
Есть нерв великого народа,
Не может быть не поражен,
Когда поражена свобода.

Гэтыя словы, кінутыя расейскім поэтам, характэрныя для рэакцыйнага ліхалецьця, у якое нашаму поэту прышлося вучыцца і распачынаць сваю грамадзкую працу, могуць быць дастасаваны і да коласаўскае ліры. Калі рэакцыя пачынае перамагаць народную свабоду, тады ў душы поэты падымаюцца буры пратэстаў — ён шукае волі, складае ёй гымны, тужыць па ёй, кліча да яе. Можа найбольш яскрава, інтымна і глыбака адбіваюцца вольныя перажываньні, пачуцьці і думкі поэты ў лірычных яго творах і асабліва ў той пэрыяд, калі сам ён за свае высокія парывы апынуўся за вастрожнаю сьцяною,

---

*) Праўдзівае прозьвішча Кастусь Міцкевіч.

дзе якраз асабліва балюча адчувалася разніца паміж вольным і паднявольным жыцьцём. Гэтае жаданьне волі набірае ў поэты асаблівай сілы. Там яму сьпявае пра волю нават голас вяснавой ночы, а першы гром, у раскатах якога чуецца воля і радасьць зямлі, растрывожыў і ўскатурхаў думы поэты:

Моцна мяне ты клічаш на волю,
Цяжка бяз волі мне тут!
Кланяйся, громе, роднаму полю,
Родны вітай ты мой кут!

За высокаю „паркан-сьцяною" ня чуваць вольных песень; „вясны прастор" не для тых, што прыдушаны халоднымі сьценамі. Але пачуцьцё волі ў чалавека, які любіць свой край, прыроду і народ, ня можа быць заглушана тым, што „падрэзаны крыльлі свабодныя", не, яно — гэтае пачуцьцё — яшчэ вастрэй, яшчэ глыбей выступае і, здаецца, стаіць на грані да фізычнага болю. Ці то гусі „прашчаньне крычаць", лятучы ў „вырай вольны", ці то сам поэта любуецца з вастрожнага вакна захадам сонца і сьнегавымі прасторамі, — усё роўна душа яго зьліваецца з гэтымі вольнымі далямі.

І далёка скрозь на полі
Гладзь сьнягоў сялела,
Я глядзеў — душа па волі
Плакала і млела.

Душа поэты, як акіян, бывае ўзбураная і спакойная, мае свае прылівы і адлівы.

Не заўсёды бываюць адлівы, не заўсёды душа поэты плача: прыходзяць і прылівы жыцьцёвай радасьці, тады вялікія надзеі акрыляюць яго і выносяць на волю, тады поэта адчувае вясёлы „час сьвітаньня" і „сэрца крэпасьць", якая нясе з сабою цьвердую веру ў тое,

Што наш засеў у полі дзікім.
Гневам вырасьце вялікім
І затопіць ён ўсё злое,
Усё няшчасьце векавое.

---

Векавое няшчасьце Беларускага Народу — няволя.

Вось якімі панурымі фарбамі малюе поэта паднявольнае жыцьцё на Беларусі ў сваёй поэме „Сымон Музыка", дзе раскрываюцца мастацкія абразы, як нас хацелі

... ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынясьці на зьдзек,
Каб у віры тэй ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,

Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды...
А ўрад царскі самачынна
Тут гвалтоўнасьці твары ў.
Будаваў вастрог народу
І барбарскім капылом
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс калом...
Эх, чаго нам ня прышлося,
Брацьця мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, няпрызнаных,
Неаплаканых нікім,
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам пустым!

Так выглядала справа культуры і справа разьвіцьця народнага таленту і генія. Эканамічная эксплёатацыя і сацыяльна-палітычны ціск, які так ярка і сакавіта малюе поэт у „Новай Зямлі", дапаўняе сабою гэты пануры абраз паднявольнага жыцьця.

На такім фоне ў поэмах Коласа Ідэя Волі выступае ўжо ня толькі, як суб'ектыўнае імкненьне самага поэты, і нават ня толькі, як об'ект беларускага нацыянальнага ідэалу, а болей таго гэтая Ідэя падымаецца і набірае значэньня агульна людзкага. Пакуль будзе панаваць на сьвеце нацыянальная ненавісьць, пакуль будзе існаваць пагроза незалежнасьці паасобных народаў і іх паняволеньне, пакуль не наблізілась шчасьлівая пара на сьвеце, аб якой лятуцелі Пушкін і Міцкевіч, тая пара,

Когда народы, распри позабыв,
В единую семью соединятся, —

датуль нястача волі будзе адчувацца вельмі балюча кожным вольным духам. Сама-ж Ідэя Волі назаўсёды астанецца вялікім сьветачам, ідэалам дасягненьня для ўсяго чалавецтва.

Гэты ідэал для Беларускага Народу сьвеціць і пералівае вясёлкавым сьветам на старонках коласаўскага эпосу.

---

Малы Сымонка — гэты кволы вясковы пастушок — асабліва чаруе нас тады, калі выяўляе сваю сапраўдную сутнасьць: ён чалавек з чуткім і жывым сэрцам, якое знае, як „травінка сваю думае думу"; ён поэта, сэрца якога сагрэта песьнямі і казкамі, ён музыка, які ловіць стогны звону, гоман жыта, сьпевы кветак; у ім жыве імкненьне пазнаць жыцьцё у яго найпрыгажэйшых праявах, — адным словам, гэта праўдзівы чуткі талент. Але гэты талент радзіўся ў хаце, „дзе спрадвеку беднасьць лютая жыве". Сям'я не разумее яго чуткай душы, бо там патрэбны толькі моцныя рукі, каб цягнуць векавое ярмо няволі. Паўстаюць канфлікты, хлапец ня мае дзе прыхіліцца і вылівае свае

жалі ў песьнях. Вольная прырода на сваіх прасторах узгадавала Сымонку, як і самага поэта, але так узгадавала, што

.. голас праўды, згоды
не замрэ ў душы ніколі;
Будзе клікаць ён да волі,
Будзе ў сэрцы жыць заўсёды,
Як той вобраз лепшай долі.

З гэтым вобразам „лепшай долі" павандраваў Сымон у сьвет, калі бацька выгнаў яго з хаты. Гэты вобраз змушае яго уцякаць ад хітрага жабрака, рваць павучыньне, якое тчэ, як той павук, ласы да нажывы карчмар Шлёма. Вырваўшысь на волю,

Хлопец чуе адраджэньне;
Ноч прайшла, пазбыта цьма,
Волен ён, канец мучэньню,
Не гвяце яго карчма!

Не доўга аднак цешыўся Сымон свабодай. Для панскай пацехі, „для забаўкі паноў" ён пападае ў грозны замак у палон да пана-магната. Многа сыноў патраціла вёска для такой пацехі. Гэтыя замкі і палацы — магіла для беларускай народнай культуры. Яны эксплёатавалі душу і працу народную, а нашых талентаў паніжалі да сваей панскай псарні. Каб была меншая шкода ад мужыкоў трэба пазбавіць іх навукі — „раз мужык — будзь мужыком", — трэба век трымаць іх сьляпымі, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе магчымасьці свайго панскага палажэньня. Сымон пасябраваў у князя з дзедам-паляшуком Данілай. „Адзінот іх радніла, голас волі іх злучаў". Родная пушча вольным сьпевам вабіла старога дзеда, вольная краіна сьнілася Сымону, працоўнаму народу каторай ён панясе „песень дар — агонь душы і сэрца жар".

Грозная бура-навальніца—сымболь ачышчэньня і абнаўленьня— разсадзіла княжаскі замак,

Што ад роду ўжо і ў род
Гнуў людзкія пакаленьні,
Крыўдзіў зьнішчаны народ.

І пайшоў Сымон з дзедам Данілай на спатканьне „шчырай волі". — „Эгэ-ж, хлопча, не забыта тая праўда на зямлі"! — кажа дзед, калі чуе, што парваліся путы прыгону.

Але, каб стацца праўдзіва вольным, трэба дапамагчы народу асесьці на „новую зямлю", збудаваць яе „на новы лад, каб жыць нанова". Адзіны спосаб для селяніна, каб пазбавіцца маральнага прыніжэньня і унезалежніцца ад пана-магната — гэта ўласны варштат працы — зямля.

„Зямля дасьць волі, дасьць і сілы". Гэтая думка чырвонаю ніткаю праходзіць праз „Новую Землю" — другую поэму Вялікага Юбіляра,

але найбольш поўнае і рацыянальнае выяўленьне яе спатыкаем ужо ў пазьнейшых творах поэты.

Паводле Коласа, народ, як той ссечаны дуб, ажыве тады, „як волю ўсю пачуе“. І на карэньнях народных вырастуць новыя дубы — і запяюць песьню волі наступным пакаленьням.

---

Колас закрасаваў на беларускай ніве у самую раніцу народнага Адраджэньня. Ён прынёс нам высокія ідэі, ён паказаў нам вялікую мудрасьць Красы і Праўды, знайшоў крыніцы той жывой вады, якая робіць нас вольнымі. Колас, — некалі скромны вясковы настаўнік, а цяпер Беларускі Народны Поэта, вырастае ў магутную постаць духа з глыбейшым уваходам яго ў гісторыю Народнага Адраджэньня. Не дарма-ж ён ня мае роўных у адмаляваньні вольнае прыроды, асабліва раніцы, усходу сонца. Ён сам устаў, абудзіўся ў досьвітку вясны народнага абуджэньня і кліча ўсіх за сабою абмыцца расою, каб быць дастойнымі выйсьці на ніву народную і прывітаць сваю раніцу. Гэты яго покліч чуе маладая зьмена народная і цягнецца да сваіх крыніц зачарпнуць радасьці і бадзёрасьці. Толькі адныя спалоханыя душы, якія спатыкаюцца і вырастаюць яшчэ дзе-не-дзе чортапалохам на беларускіх загонах, ня бачаць коласаўскай раніцы, усходу сонца, не абмыліся расою ягонай глыбокай поэтыцкай мудрасьці і ня ўмеюць знаходзіць скарбаў сярод свайго працоўнага народу. *Р. Ш.*

---

З. ЛІРНІК

# Край.

*(Прысьвячаю Якубу Коласу).*

Край ты мой зялёны,
край лугоў, палос!...
Залатыя клёны,
звон сталёвых кос.

Глянеш — навакольлем,
дзе ірдзее рунь,
разьляглася полем
доля - Беларусь.

Край ты мой аўсяны —
памяць быўшых дзён...
У палёх — курганы,
соснаў ціхі звон.

А ў садох шаўковых
пурпуры рабін...
Край ты мой вясковы,
водблескі лучын!..

У тваім прасторы
шопаты бяроз,
дыямэнты - зоры
ў кроплях сініх рос.

А ў лугох зялёных
красак фарба - сінь...
Б’е табе паклоны
твой сялянскі сын.

Б’е табе паклоны
ў сіні луг - пакос.
Край ты мой зялёны,
край сталёвых кос!

---

Ў дарозі.

Меж узгоркаў і курганоў
Сьцежка вузкая лязіць.
Даль нямая і за туманоў
Сіраціннаю глядзіць.
Лес акрыўся тонкай тканьню,
Дымкай сіняй ўецца гай,
За крывой, далёкай граньню
У бляску тоне яго край....
Ціш царыць ва ўсім раздольлі,
Уся заліта сонцам даль....
І сьціскае душу больлю
Не то смутак, не то жаль....
Вьецца сьцежка прэд мною,
У даль шырокую бяжыць,
То зьвіваецца зьмеёю,
То як стужачка ляжыць.
А я далей ўсё дыбаю
Між узгоркаў і раўнін,
І мне шэпча жыта с краю:
„Ты адзін, адзін, адзін!“

Аўтограф недрукаванага вершу 49-га па парадку, з напісаных у Менскай турме ў 1909 годзе.

---

# Якуб Колас у вастрозе.

*(Паводле вастрожных пісем поэты).*

За арганізацыю ў 1906 годзе патайнага зьезду народных вучыцялёў - беларусаў у роднай вёсцы Якуба Коласа — Мікалаеўшчыне, поэта наш, як ведама, быў засуджаны на тры гады ў вастрог. Бо і як-жа: ці-ж то не праступленьне было дамагацца беларускае школы для беларускіх дзяцей? Дый ці-ж адзін толькі царскі ўрад у Расеі глядзеў гэтак на справу беларускае школы?!...

Для поэты, які ад малых дзён жыў на ўлоньні прыроды - у лясьніковай хаце сярод бязьмежных лясных прастораў, які тамака прывык да волі — больш, чым прывыкаюць да яе дзеці, узгадаваныя ў цеснай, скучанай вёсцы, — вастрог мусіў паказацца нечым страшным, кашмарным. Вастрог страшэнна прыгнятаў Коласа. Поэта нязвычайна балюча адчуваў нястачу волі. А гэты боль спараджаў высокага храства лірычныя вершы Коласа, ведамыя кожнаму, хто чытаў ягоны зборнічак „Песьні жалабы“ (Вільня, 1910). Такое храство магло стварыцца толькі затым, што ў лірыках сваіх Колас выліваў запраўдныя свае пачуцьці, прамаўляў да чытачоў з усей шчырасьцяй, абнажаючы сваю душу—да канца.

Што ў вершах Колас быў зусім шчыры, гэта пацьвярджаюць і ягоныя пісьмы, пасыланыя на волю—патайна. Афіцыяльным шляхам — праз вастрожную кантору, дзе пісьмы цэнзуравала вастрожная адміністрацыя, — Колас не хацеў пісаць да блізкіх людзей: не хацеў, каб нехта чужы, варожы капаўся бруднымі лапамі ў ягонай душы. З двума гэткімі нелегальна высланымі на волю пісьмамі мы мелі магчымасьць пазнаёміцца, дзякуючы ветлівасьці асобы, да якое яны былі адрасаваны.

Пісьмы адносяцца да 1909 году — другога календарнага году жыцьця Коласа ў Менскім вастрозе (сеў ён туды ў 1908 годзе). На адным дата 27 красавіка, на другім — 30 мая.

Першае пісьмо Колас пачаў пісаць 1-га сакавіка, але скончыў толькі ў канцы наступнага месяца. Напачатку ён у ім тлумачыць, чаму ня піша праз кантору, тым матывамі, якія мы ўжо падалі. Але й тым шляхам, якім поэта пасылаў свае пісьмы, як бачым з датаў, ён пісаць не сьпяшаўся. Ня было настрою. „З надыходам вясны настрой мой зусім папсаваўся", — піша Колас, пацьвярджаючы тое, што выказаў у сваіх вершах вясьняных.—Кніг няма, чытаць няма чаго. Да таго-ж прыгнятала яго маўчаньне ягоных найбліжэйшых таварышоў-настаўнікаў. Ніхто ня пісаў яму... Дык лаець іх поэта, але — „не праз злосьць нейкую, а любячы".

На настроях Коласа цяжка адбіліся і вастрожныя падзеі. У тыя часы палітычныя вязьні былі на „ўпрывілеяваным" палажэньні ў вастрозе, да іх адносіліся зусім ня гэтак груба, як да вязьняў-крыміналістаў. Але ўзьняўся канфлікт з вастрожнай адміністрацыяй: апошняя 23 красавіка 1909 году патрэбавала, каб вязьні ўставалі падчас штодзеннае праверкі — абходу камер вастрожным начальствам. Ня гледзячы на пагрозу карцарам за неспаўненьне гэтага, „палітыкі" збунтаваліся: адмовіліся ўставаць. „Мы адмовіліся, — піша Колас, — і за гэта прыдзецца адсядзець сем дзён у карцары, дый сяммю гэта йшчэ не абмежыцца. А што такое тутэйшы карцар, Вы ня можаце сабе прадставіць. У апісаньні Дантаўскага пекла ён заняўбы не апошняе мейсца. Але ўсё перажывем. Жыцьцё ня песьціла нас, і карцар ня вельмі палохае. Пабачаньня ні з кім не даюць. Перадачаў ня прымаюць". Гэты карцар, які вісеў над поэтай, хоць ён і не баяўся кары, усё-ж прыгнятаў Коласа. Прыгнятала чаканьне нечага цяжкага, жудаснага. У пісьме з 30 мая, ужо адбыўшы кару, Колас малюе карцар нязвычайна панурымі фарбамі. Вось што ён піша:

„Нашае палажэньне ў вастрозе крыху зьмянілася. Барацьба за ўставаньне на праверках закончана. Ведама, прайгралі мы, аб чым і раней я не сумляваўся. З аднаго боку выдаецца сьмешным бараніць тое, што сам загадзя засудзіў на бясплоднасьць і няўдачу; а з другога — нельга-ж адразу складаць аружжа. У канцы канцоў прыйшлося пайсьці ў карцар. „Карцар — прадвесьнік магілы", — пяюць у аднэй арыштанцкай песьні. І ў гэтым ёсьць праўда. Карцар—нешта страшэннае; цяжка верыцца, каб у наш век існавалі йшчэ гэткія грубыя перажыткі татаршчыны і барбарства. Прадстаўце сабе вузкую й цесную нару ў каменнай сьцяне, у падзямельлі, шчыльна закрытую цяжкімі, акаванымі жалезам дзьвярыма, куды ня можа дайсьці ні луч сьвятла, ні струя сьвежага паветра, куды ледзьве далятаюць гукі з вонкавага сьвету,—і вы будзеце мець прадстаўленьне аб вастрожным карцары. Паветра тамака сьпёртае, вільготнае. Падлога на паўвяршка пакрыта брудам. Ані пасьцелі, ані падушкі. Валяешся,

быццам жывёла, у гразі. Карміцца прыходзіцца толькі хлебам і вадой. Сядзім з завязанымі вачыма, бо цемра блага дзеець на зрок Сядзючы, як той крот у падзямельлі, я злажыў два вершы, ведама, без паперы й алавіка — яны тамака лішнія. У адным з іх я праводзіў паралель паміж намі, сядзеўшымі ў карцары, і тым, што астаўся ў камеры, не пайшоў у карцар, злажыў аружжа, паддаўся... Калі выходзіш з карцару, дык адчуваеш галавакружэньне, усё здаецца нейкім дзіўным, усё зьліваецца ў нейкі шалёны танец. Словам, сьвет шалее. Я выйшаў з карцару гэткім крэпкім, што мог яшчэ пратанцаваць танец „Зялёнага асла". На здароўі карцар блізу не адбіўся. Сядзючы ў карцары, лятуціш аб цеснай камеры, як аб цераме, ды аб цьвёрдых нарах і матрацу, як аб нечым недасяжным, аб нейкім ідэале жыцьцёвае раскошы І гэта ў той час, калі вясна гвалтам гнала і старога і малога на чыстае паветра, калі навакол усё пакрывалася зеленьню й краскамі... Абраз можна нарысаваць шырокі, ды ён ясны для ўсіх і зразумелы. Назаўтрае нам ізноў запрапанавалі ўстаць, мы адмовіліся. У той-жа дзень трэба было ізноў ісьці ў карцар. Прышлося пакарыцца".

Даўшы гэткі сакавіты абраз карцару, Колас жаліцца, што, хоць ужо пускаюць на пабачаньне, але-ж мала хто ходзіць... Да таго-ж няма кніжак. Колас наракае на аднаго з сваіх сябраў, што—яшчэ да турмы — пазычыў у поэты два томы Гэкеля і не вярнуў. Цяпер-жа яны вельмі-б прыпатрэбіліся!

У канцы пісьма Колас кажа, што за час бытнасьці ў вастрозе (значыцца, каля году ён напісаў 51 верш. Далейшыя радкі сведчаць аб вялізарнай скромнасьці поэты: „Таварыш з Сыбіру вітае мяне з літаратурным посьпехам. — Чытаў у журнале „Познаніе Россіи" стацьцю аб адраджэньні беларускага языка. Мяне, паміж іншым, паводле слоў таварыша, называюць другім Шэвчэнкам, пэўне-ж, беларускім. Хацелася-б гэтаму верыць, ды скептыцызм заядае: каб ня выйшла тутака абмылка. Праўдападобна, ён зблутаў мяне з Я. Купалай. Вестку гэту я дастаў яшчэ год назад. Пісала адна паненка. Мае адносіны да гэтага паведамленьня і тады былі гэткія самыя і дзеля тых-жа прычын. Калі-ж бы, насупраць усім спадзяваньням (— а што, калі фортуна хоць раз шчыра й ветла кіне ў мой бок усьмешку?), словы гэтыя празначаны мне, вялікая радасьць будзе ў маёй душы. Гэта й будзе адзіная крыніца маей радасьці і сэнсу майго жыцьця, жыцьця старога суматрскага сланя. Бо-ж пісаць можна, але, як няма таленту..." Што мела быць далей, пасьля гэтага „але", поэта не дапісаў.



Янка Купала.

**Другі вялікі поэта Беларусі, які летась абходзіў 30-лецьце сваей літаратурнай працы. Фатаграфія з 1904 г.**

# Творчы шлях Якуба Коласа.

Беларускае адраджэньне, якое пачалося ў XIX стагодзьдзі, прыймае характар масавы толькі ў першых гадох XX стагодзьдзя. Прычынілася да гэтага рэвалюцыя 1905 году і зьвязаныя у ёю падзеі, якія ўскалыхнулі беларускі народ і паклікалі яго да тварэньня ўласнымі рукамі сваіх культурных і грамадзкіх вартасьцяў. Хваля адраджэнскага руху найшырэй адбілася ў літаратуры, якая заўсёды зьяўляецца найлепшым паказьнікам прыродных здольнасьцяў народу і яго духовае сілы. Пакольні ў XIX ст., а нават напачатку XX беларускую літаратуру амаль выключна тварылі шляхоцкія кругі, ідэолёгічна часта далёкія ад патрэбаў масы, патолькі цяпер твораць яе ўжо прадстаўнікі народу. Навакол „Нашае Нівы“, гэтага ўзапраўды гістарычнага часапісу, гуртуецца цэлы рад поэтаў і пісьменьнікаў—сыноў сялянскіх і работніцкіх, якія ў сваіх творах падышлі да народу найбольш беспасярэдна, усебакова выявілі ягонае гаротнае жыцьцё і паказалі яму правільную дарогу да нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня Апрача ідэолёгічнага значэньня, літаратура гэтае пары асягнула таксама высокую роўню артыстычна-мастацкую, падыймаючыся на вышыню літаратураў многіх іншых народаў.

Гэты магутны роскві літаратуры ў прыраўнаньні да небагатай яе мінуўшчыні зьяўляецца заслугай перадусім двух волатаў беларускага прыгожага слова — *Янкі Купалы* і *Якуба Коласа*. Вялічыню абодвых песьняроў хутка зразумела сучаснае ім пакаленьне, якое ўважала іх за духовых павадыроў у сваей нацыянальна - вызваленчай працы, а ў творах іхніх шукала ідэйнага апорышча ў цяжкой барацьбе. Такім спосабам Купала і Колас за ўвесь час сваей творчасьці ня толькі стаялі на чале беларускае літаратуры і надавалі ей мастацкі і ідэолёгічны кірунак, але так-жа былі ў вялікай меры ідэолёгамі і політычна-грамадзкіх рухаў. Дзеля гэтага іхняя аграмадная роля не аграпічываецца толькі да гісторыі нашае літаратуры, але таксама абхоплівае ўвесь абраз жыцьця беларускага народу.

Сяньня ўжо прыйшло на зьмену новае літаратурнае пакаленьне, узгадаванае на спадчыне купалаўскае і коласаўскае ліры. І хаця гэтае пакаленьне, прыстасоўваючыся да ходу часу, пачало шукаць новых дарог мастацкай творчасьці, то аднак ніхто яшчэ, нягледзячы нават на высокія артыстычня задаткі, не патрапіў згуляць такой аграмаднай ролі, як Купала і Колас.

* * *

На літаратурную ніву выступіў Якуб Колас роўна трыццаць год таму назад, друкуючы ў першым нумары „Нашае Долі“, першае легальнае беларускае газэты, свой верш *Наш родны край*. У пачаткавы пэрыяд сваей творчасьці вызначыўся ён перадусім як лірык; большасьць ягоных вершаў, зьмешчаных у зборніках *Песьні жальбы* (1910 г.) і *Водгульле* (1922 г.), адносяцца да 1906 — 1911 г.

У кароткіх лірычных вершыках, пісаных вельмі проста, часамі з беспрэтэнсыянальнай скромнасьцю, выявіліся ўжо галоўныя асаблівасьці таленту Якуба Коласа. Уражлівая душа поэты з асаблівай жывасьцю рэагуе на праявы вонковага жыцьця, перадусім пры-

роды, знаходзячы ў ей многа запраўднага хараства. З багатай беларускай прыродай і маляўнічымі наднёманскімі абразамі лучыць поэту глыбокая пачуцьцёвая сувязь. З гэтага шчырага зрадненьня поэты з красой і маляўнічасьцю беларускіх краявідаў выплывае іншая, вельмі характэрная асаблівасьць ягонае лірыкі. Вершы з тэматыкай, абапёртай на прыродзе, адзначаюцца глыбокім лірызмам, а ня маюць аб'ектыўнага апісальнага характару. Абразы і зьявы прыроды звычайна родзяць у душы поэты цэлую гаму розных пачуцьцяў і ўражаньняў, якія Колас з асаблівай яму мяккасьцю ўмее пераліць у свой верш.

Роўналежна з тэматыкай прыродаапісальнай, стараецца Колас ахапіць жыцьцё беларускага сялянства ў яго тыповым і натуральным выглядзе, апець мужыцкае гора, даючы волю ўласным думкам і перажываньням грамадзкага зьместу. У гэтых вершах Колас ня толькі выкрывае сацыяльную і нацыянальную крыўду, што павісла над беларускім народам, але так-жа прызывае народ да барацьбы, варожачы яму перамогу і сьветлую будучыню. Оптымізм песьняра праяўляецца даволі выразна нягледзячы нат' на тое, што ў многіх вершах ягоных, як і ў „нашаніўскай“ поэзіі наагул, многа сьлязьлівасьці і элегійных тонаў.

Лірыка Коласа паводле свайго настрою і дамінуючых тонаў зьяўляецца наагул спакойная і зраўнаважаная, у якой рэдка мы назіраем бунтарную дынаміку і магутныя прызывы барацьбы, так характэрныя ў Купалы. Затое адзначаецца яна нязвычайна мяккаю і лагоднаю пачуцьцёвасьцю, якую пясьняр пераказывае пры помачы здрабнелых і ласкавых слоў і зваротаў, пры помачы ўласьцівых Коласу эмоцыянальных адценьняў поэтыцкае мовы, мэлёдыйнасьці верша і цэлага раду іншых мастацкіх прыёмаў. Дзякуючы гэтаму пачуцьці і перажываньні песьняра ня трацяць сваей беспасярэднасьці і маюць вялікую сугэстыўную сілу.

* * *

Бясспрэчна большае значэньне мае Колас у беларускай літаратуры, як аўтар эпіцкіх твораў — прозаічных апавяданьняў і повесьцяў.

Пачаткі беларускае новэлі вяжуцца з творчасьцю Ядвігіна Ш., які ў сваіх зборніках „Бярозка“ і „Васількі“ даў некалькі дзесяткаў даволі мастацкіх апавяданьняў, часткова так-жа з творчасьцю мала ведамага нажаль беларускага поэты і пісьменьніка — Каганца. Але Колас (у прозаічных творах пад псэўдонімам Тарас Гушча) беларускае апавяданьне падняў на адпаведную мастацкую вышыню і, працуючы ў гэтым кірунку сыстэматычна, даў цэлы рад характэрных тыпаў новэлі. Прыгэтым творы Коласа гэтага кірунку — гэта не кароценькія апавяданьні Ядвігіна Ш. і Каганца з простым, а часамі нат' прымітыўным зьместам, але творы большых разьмераў, із складанай і скомплікаванай фабулай, з добра абдуманай кампазыцыяй і іншымі артыстычнымі асаблівасьцямі, неабходнымі для новэлі. Такім способам паколькі пачынальнікамі беларускага мастацкага апавяданьня можам лічыць успомненых аўтараў, патолькі ўзапраўдным тварцом яго зьяўляецца ўсё-ж такі Колас.

Першы невялічкі зборнічак апавяданьняў Коласа паяўляецца ў 1912 г. п. н. *Апавяданьні*, а пасьля двух год — у 1914 г. выходзіць

іх вялікі зборнік *Родныя зьявы*, дзякуючы якім пісьменьнік хутка здабыў сабе славу найлепшага беларускага прозаіка. Аднак большасьць апавяданьняў Коласа паяўляецца толькі пасьля вайны: *Казкі жыцьця* (1922 г.), зборнік невялічкіх, але высокамастацкіх алегорычных апавяданьняў з жыцьця расьлін і зьвяроў, зборнікі *У ціхай вадзе*, *Крок за крокам*, *На рубяжы* (1925 г.), *На прасторах жыцьця* (1926 г.) і іншыя; у апошніх пісьменьнік з вялікім рэалізмам малюе жыцьцё беларускага сялянства і інтэлігенцыі за часоў савецкіх.

Найчасьцейшай тэмай коласаўскіх апавяданьняў зьяўляецца быт беларускага сялянства ў розных яго праявах і ягонае псыхолёгічнае жыцьцё, часта даволі багатае і скомплікаванае. Абедзьве гэтыя галіны паказаныя не абстракцыйна, але на фоне ўдала збудаванай фабулы, часта падкрашанай уласьцівай Коласу ноткай сардэчнага гумару альбо глыбокага лірызму. Няўпрыклад многім іншым беларускім поэтам і пісьменьнікам „нашаніўскае“ пары, Колас ніколі не ідэалізуе сялянства, але стараецца прадставіць яго з аб'ектыўным рэалізмам, паказываючы, апрача дадатніх яго бакоў, таксама і ад'емныя. Дзякуючы вялікаму багацьцю тыпаў, паўніні бытавых і псыхолёгічных апісаньняў а такжа ўспомненаму рэалістычнаму мэтаду аўтара, нацыянальны быт і характар беларускага сялянства знайшлі сабе ў апавяданьнях Коласа найбольш шырокае мастацкае выяўленьне.

Бытавы і псыхолёгічны бок жыцьця беларускага сялянства зьяўляюцца ў апавяданьнях Коласа пераважаючымі, але ня выключнымі. Апрача гэтага Колас даволі часта малюе нацыянальную і соцыяльную крыўду Беларусаў, перасоўвае перад нашымі вачыма кантрастовыя абразы сялянскай галіты і гора побач з панскім багацьцем і роскашшу, а так-жа ў некаторых апавяданьнях стараецца паказаць беларускіх сялян у дзейным змаганьні за свае правы.

З гледзішча артыстычнага некаторыя коласаўскія апавяданьні зьяўляюцца праўдзівымі пэрламі. У будаваньні фабулы і вязаньні яе паасобных элемэнтаў і эпізодаў пісьменьнік патрапіў унікнуць шаблёну і прымітывізму, так частых у нашых пачынаючых прозаікаў, а ўмела ўжывае цэлага раду композыцыйных прыёмаў высокае якасьці, стараецца ў кожным творы даць іншы падход да тэмы і іншае яе асьвятленьне. Апрача гэтага коласаўскія апавяданьні адзначаюцца лёгкай і плястычнай мовай і вялікай зьлітнасьцю фабулы. А калі часам і рассаджываюць яе рамы шырэйшыя прыродаапісальныя эпізоды ці лірычныя дыгрэсыі і разважаньні аўтара, то аднак і яны спаўняюць сваю артыстычную ролю, будучы фонам ці дапаўненьнем галоўнае тэмы апавяданьня.

* * *

На вышыню мастацкае прозы ўзыйшоў Колас у сваіх повесьцях. Першая беларуская повесьць выйшла з пад пяра Ядвігіна Ш. п. н. „Золата“, потым М. Гарэцкі даў даволі цэнную повесьць „Дзьве душы“, аднак Колас першы ўдасканаліў артыстычна гэты так важны і так спозьнены ў нас род літаратурнай творчасьці.

У 1923 г. выходзе яго повесьць *У палескай глушы*, будучая першай часткай задуманай Коласам трылёгіі, а ў 1927 г. другая яе частка — *У глыбі Палесься*. Паколькі апавяданьні Коласа былі ў аграмаднай большасьці прысьвечаны апісаньню сялянскага жыцьця, патолькі ўжо ў успомненых повесьцях пісьменьнік выводзе на сцэну беларус-

кую інтэлігенцыю — вучыцялёў, лепшая частка якіх, нягледзячы на сэмінарскае ўзгадаваньне ў расейскім чорнасоценскім духу, кінутая ў вір жыцьця вошчупкам шукае праўдзівых дарог і знаходзе іх.

Галоўны герой повесьцяў Лабановіч — гэта сам Колас у гады вучыцельскай працы, а так-жа многа іншых выпадкаў і сытуацыяў, апісаных у творы, зьяўляюцца ўзятымі з праўдзівага жыцьця, толькі пераліўтыя пісьменьнікам праз прызму высокага мастацтва. Такое фотографаваньне канкрэтнага жыцьця, вельмі характэрнае ў большасьці коласаўскіх твораў, часамі няволіць яго творчыя ўзьлёты, прымушаючы трымацца фактаў, незаўсёды згодных з артыстычнай лёгікай. Асабліва адбілася гэта на другой частцы трылёгіі, якая артыстычна стаіць ніжэй за першую.

Тыя артыстыныя асягненьні Коласа ў галіне прозы, аб якіх мы ўспаміналі гаворачы аб яго новэлях, у повесьцях, як у творах значна большых, зарысаваліся яшчэ выразьней. Асабліва цікава разьвівае пісьменьнік апавяданьне ў сваіх повесьцях, паступова і лёгічна адкрываючы што раз новыя факты, або нечаканa комплікуючы іх, што чытач сочыць за імі з напружанай цікавасьцю. Фабула ўспомненых повесьцяў ёсьць праўда даволі простая, якую моцна разьбіваюць, як звычайна ў Коласа, бытавыя й прыродаапісальныя эпізоды, адмалёваныя вельмі сакавіта й пластычна. Аднак у апошняй сваей повесьці *Дрыгва*, выданай некулькі год таму назад, пісьменьнік паказаў, што патрапіць тварыць і больш зьлітная і скомплікаваныя композыцыі. Гэтая повесьць з жыцьця паляшукоў у часы польска - бальшавіцкае вайны, нягледзячы на адносна невялікія разьмеры, зьмяшчае ў сабе аграмадны лік выпадкаў і сытуацыяў, зьвязаных арганічна ў адну артыстычную цэласьць.

Мастацкімі пэрламі коласаўскіх повясьцяў, як і ўсіх яго твораў наагул, зьяўляюцца маляўнічыя і пластычныя абразы беларускае прыроды. Характэрна, што паколькі ў іншых творах малюе Колас наднёманскія краявіды, асабліва ваколіцы сваей роднай Мікалаеўшчыны, патолькі ўсе тры ягоныя повесьці зьяўляюцца аснутымі на фоне палескае прыроды і даюць нам шырокі і прыгожы абраз паўдзённае часткі нашага краю — Палесься.

* * *

Творчы размах Коласа і шырокі прасьцяг артыстычных зацікаўленьняў з асаблівай яркасьцю выявіліся ў яго поэмах. У поэтыцкім разьвіцьці Коласа твораць яны наўпрыгажэйшы разьдзел; ім-жа і сам пясьняр прыпісываў найвялікшую вагу, уплятаючы ў іх найбольш шчырыя і інтымныя свае перажываньні.

Поэму *Новую зямлю*, якая выйшла ў 1923 г, пачаў Колас пісаць яшчэ ў 1911 г., седзючы ў менскім вастрозе. Такім спосабам працэс яе паўставаньня цесна зьвязаны з найбуйнейшым пэрыядам творчасьці песьняра. Гэты монумэнтальны твор слушна ўважаецца беларускай нацыянальнай эпопэяй, бо ў ім знайшлі найпаўнейшае мастацкае выяўленьне ўсе праявы жыцьця беларускага сялянства, яго псыхолёгія і вонкавы быт, а так-жа ягонае прыроднае імкненьне да ўласнае зямлі, як незалежнага варштату працы. Большасьць гэтых апісаньняў маюць чыста эпіцкі характар, яны разгортываюцца шырокімі палотнамі, ахопліваючы ўсе найдрабнейшыя праявы жыцьця.

„Новая замля“ мае аднак паважныя артыстычныя заганы, выкліканыя часткава перавагаю апісальнага, статычнага элемэнту над элемэнтам дынамічным — руху. Яе вельмі простая і ўбогая фабула губляецца ў апісаньнях і лірычных дыгрэсыях, паасобныя яе элемэнты вельмі слаба між сабой павязаныя. Але затое вялікі эпіцкі размах і рэалізм у апісаньні сялянскага быту і псыхічнага жыцьця, а так-жа абразы беларускай наднёманскай прыроды, адмаляваныя з нядзвычайнай сакавітасьцю і лірызмам, ня маюць сабе роўных ува ўсей нашай літаратуры і касуюць успомненыя заганы поэмы.

„Новую зямлю“ мы прывыклі прыраўноўваць да адпаведных рэпрэзэнтатыўных твораў у польскай і расейскай літаратуры: да „Pana Tedeuša“ А. Міцкевіча і „Аўгеня Анегіна“ А. Пушкіна. Вось-жа пакольні ў кампазыцыі і фабуле нашая поэма ўступае поэмам Міцкевіча і Пушкіна, патолькі ў адтварэньні жыцьця народу можа з імі сьмела раўняцца, а ў маляваньні абразоў прыроды нават перавышае іх.

Наступную сваю поэму п. н. *Сымон Музыка*, выданаю ў цэласьці ў 1925 г., прысьвяціў Колас беларускай моладзі. Гэтае прысьвячэньне ня было прыпадковым, бо якраз прадметам поэмы зьяўляюцца незаспакоеныя парывы моладзі: самародка музыкі Сымона, які праходзіць цэлы рад перашкодаў у саматужным імкненьні да выяўленьня свайго таленту, і яго спадарожніцы Ганны, прыпадкова спатканай на цярністым шляху. Паміж імі завязываецца ціхая і нявінная любоў, поўная самаахвярнасьці, якая ў канцы перамагае ўсе перашкоды.

Пакольні ў „Новай Зямлі“ Колас адмаляваў псыхічнае жыцьцё беларускага сялянства, а так-жа дзяцей, патолькі ў „Сымоне Музыку“ спатыкаемся з глыбокім і вельмі цікавым адтварэньнем багатае псыхікі нязвычайнай адзінкі — маладога песьняра. Гэта робіць Колас з вялікай умеласьцю і знаньнем людзкой душы, так што перажываньні Сымона зьяўляюцца наскрось праўдзівымі і глыбокімі.

Характэрнай рысай коласаўскіх эпіцкіх твораў ёсьць, як ведама, вялікая колькасьць лірычнага элемэнту, перадусім у форме паасобных дыгрэсыяў, часта адарваных ад цэласьці апавяданьня. Вось-жа гэтая асаблівасьць найпаўней выявілася ў „Сымоне Музыку“, так што некаторыя крытыкі называюць яго „лірычнай поэмай“. Эмоцыянальна-лірычныя матывы твору, выкліканыя асаблівай любасьцю аўтара да апісываных асоб і выпадкаў, пераказаныя з такім высокім артызмам, што чаруюць слухача. У „Новай Зямлі“ пераважалі апісальныя элемэнты, а спасярод іх многія апісаньні прыроды адрываліся ад ходу акцыі поэмы і былі поўнасьцю самамэтнымі. Такімі самамэтнымі элемэнтамі ў „Сымоне Музыку“, незалежнымі ад ягонай фабулы, зьяўляюцца вельмі частыя лірычныя адступленьні. Такім спосабам „Новая зямля“ адзначаецца шырокім апісальным характэрам-пэйзажызмам, а „Сымона Музыку“ найбольш характэрызуе лірызм.

Варта адцеміць, што Колас займаўся таксама драматычнай творчасьцю і напісаў некалькі драмаў із сялянскага і інтэлігенцкага жыцьця. Аднак творы гэтыя зьяўляюцца даволі мернай якасьці і на агульны абраз коласаўскае творчасьці ня ўплываюць.

* * *

З гэтага кароткага агляду выплываюць ужо галоўныя асаблівасьці творчасьці Коласа, якія яе адрозьніваюць ад творчасьці Купалы.

Купала ў сваей магутнай песьні стараўся ахапіць увесь беларускі народ і стварыць як-бы сынтэзу яго духовых імкненьняў. Песьня ягоная, поўная бунтарнае дынамікі і размаху пачуцьцяў, гучэла магутным гымнам барацьбы і вяла народ да вызваленьня. Праўда і Колас жыва рэагаваў на грамадзкія патрэбы народу, асабліва часта высоўваў у сваіх творах ідэю волі, аднак галоўнае яго значэньне перадусім у шырокім адтварэньні жыцьця народу, яго багатай душы і ў адмаляваньні хараства і асаблівасьцяў роднага краю. Ягоная творчасьць, захварбаваная чулым і мяккім лірызмам, гэта нязвычайна багаты і высока мастацкі абраз Беларусі. Такім спосабам Купала зьяўляецца ідэолёгам беларускага адраджэньня і прарокам народным, Колас-жа перадусім мастаком роднага краю, у якога творчасьці знайшлі найбольш поўнае мастацкае выяўленьне ўсе нацыянальныя асаблівасьці Беларуса. Як карыфэі беларускага слова абодва зьяўляюцца вялікімі і, дзякуючы рознаму характару сваей творчасьці, узаемна дапаўняюцца. Народ наш, які патрапіў выдаць такіх гэніяў, як Колас і Купала, паказаў свае вялікія творчыя сілы і свае магутныя імкненьні да жыцьця.

*Язэп Каранеўскі.*

---

МАКСІМ ТАНК

## Восень.

Лясы, лясы і пералескі,
рызман падзёрты - балаты;
лістом завеяныя сьцежкі
і сініх зораў дождж густы.

Я гавару з старой дарогай,
што успамінамі лягла.
Над адзінокім ціхім стогам
дыміцца сіняя імгла.

А месяц жоравам бяз стада
дзяўбе атаву, ліст сівы,
і вецер вее сінім чадам,
дрымотай веюць паплавы...

Паслалі вы лясы і горы
свайго аратага, касца
на пляцы вуліцаў у горад
падняць брук шэрага жыцьця.

Вы пэўна думалі: забудзе
дарогі, сьцежкі і пяскі...
Ў мяне і сяньня чую грудзі
калышуць вашы трысьнікі.

Няраз блізкіх сваіх пытаю
пра ураджай і сенакос;
ці лебяда яшчэ сівая
расьце нявырванай з палос?

І сьняцца нівы, пералескі,
з атавай жоўтай балаты,
лістом завеяныя сьцежкі
і сініх зораў дождж густы.

Вільня, 30.X 36 г.



# На Прыпяцьці*)

Дзесяць гадоў таму назад у Вепрах ня было дзяўчыны цікавейшай за Аўгіню, цяпер войтаву жонку. Вясёлая, жывая, дурасьлівая свавольніца і першая штукарка на розныя забаўкі і выдумкі, — вось якая была кублікавых Аўгіня. Любіла яна і з дзяцюкамі пажартаваць, ды жартавала так, што кожнаму з іх здавалася, нібы ён і ёсьць той, на якім запыніла яна сваю дзявочую ласку.

„Нарвецца дзяўчына“, – казалі сталыя жанкі і маладзіцы, калі гутаркі пра яе дурасьці даходзілі да іх вушэй. Аўгіня жартаваць жартавала, але граніц у сваіх дурасьцях не пераступала. Умела быць яна сталаю і сур'ёзнаю, і вочы яе, цёмнаватыя, як лёгкі змрок ясных чэрвеньскіх вечароў, пазіралі тады строга і ўдумліва. І трудна было азначыць колер гэтых вачэй, што сьвяціліся, як дзьве роўныя, прадаўгавата круглыя ямінкі—багны на цёмным балотным дне ў росьпісі пышных расьлін Іх можна было ўспрыймаць як карыя вочы, чуць-чуць пацягнутыя зялёнкаваю паволокаю, а часамі яны здаваліся шэравата-зялёнымі. Адно можна сказаць пра іх: яны вабілі, вось як вабіць воля і радасныя прасторы вясны, поўныя музыкі, звону і шуму жыцьця, і зацягвалі, як надрэчная дрыгва, дзе звадлівым шэптам гамоняць высокія шумлівыя чароты і пахучы аір.

Але чараўнічыя гэтыя вочы, здаваліся, ня мелі ўлады над Мартынам Рылем, і не Аўгіню вылучыў ён з чарады вепраўскіх дзяўчат. Аўгіня сама зачэпіць пры здарэньні Мартына, хоць у гэтым нічога дзіўнага ня было, калі прыняць пад увагу Аўгінін характар і яе дурасьлівасьць. Мартын удзеліць ёй столькі ўвагі, сколькі патрабуюць дачыненьні чалавека да чалавека і болей нічога.

— Падабаешся ты мне, Мартын, — раз казала так да яго Аўгіня, а ў вачох яе іскрачкі дурасьлівай жартаўлівасьці пабліскваюць.

Мартын спакойна ёй на гэта, нібы нічога не зважаючы:

— І ты падабаешся мне, Аўгіня.

— А чым я падабаюся табе, Мартын?

— Тым, што я падабаюся табе.

— А калі-б ты мне не падабаўся?

— Ну, дык што-ж?

— А ведаеш за што цябе можна ўпадабаць?

— Ня ведаю — скажы.

— За тое, што ты высокі, што ў цябе, як відаць будуць чорныя вусы. І вочы твае шэрыя, і калі ты часамі глядзіш імі, то робіцца страшна. Я люблю, калі хлапецкія вочы змушаюць затрасьціся ад страху. Але я не пашла-б за цябе замуж: у цябе, калі ты пасталееш, будзе казьліная барада.

І заліваецца Аўгіня вясёлым сьмехам.

Мартыну робіцца трохі няпрыемна і ад гэтага сьмеху, ад такога канца іх гутаркі. Ён адчувае сябе крыху зьняважаным і абражаным. Покі сабраўся ён адказаць Аўгіні якім-небудзь трапным словам на яе заўвагу аб барадзе, яна ўжо пасьпела шмыгнуць ад яго і, як відаць, зусім забыцца, што ў Вепрах ёсьць чарнявы, высокі, шырокі

---

*) Гэтае апавяданьне ёсьць адрыўкам у найнавейшай повесьці Я. Коласа п. н. „Дрыгва“, выданай у Менску ў 1934 г. — Рэд.

ў плячах і тонкі ў стане Мартын. Але і Мартын хутка забывае ўсю гэту на істоце драбязьлівую рэч. І толькі вечарам, калі ён лёг спаць, перад яго вачыма раптам устала Аўгіня. Яе заваблівыя вочы, і ўся іх гутарка аднавілася ў памяці. Разам з гэтым прыпомнілася і казьліная барада, што вырасьце ў яго, калі ён пасталее.

Прычым тут барода? На што яна прыпляла яе? Няпрыемна ўспамінаць гэта. Мартын узважае ўсе словы Аўгінінай гутаркі, калі разабрацца па справядлівасьці, то яна сказала яму болей прыемных слоў, чым прыкрых. Наконта-ж таго, што яна не пашла-б за яго замуж, дык Мартын і ня думаў жаніцца з ёю і наагул аб жаніцьбе ён ня думае. Але і гэта толькі словы яе і іх можа якраз трэба разумець наадварот. І ці не напамінаюць яны яму аб чым колячы? І ўсё-ж такі казьліная барада пераважае над усім. Мартын плюнуў, перавнуўся на бок і заснуў маладым здаровым сном.

Мартын Рыль ехаў з стрэльбай на чаўне ўскрай Прыпяці. Ён туліцца бліжэй да чаротаў, каб спрытней падкрасьціся да дзікіх качак. Яму пасчасьлівілася настраляць іх штук пяць. З таго боку Прыпяці шыбуе човен. На носе чаўна ляжыць зялёная вязка сьвежай травы і ёмкі сноп пышнага чароту. На чаўне бялее гнуткая, рухлівая дзявочая постаць у чырвонай хустачцы, завязанай канцамі назад. Спрытна мільгае вясло ў яе пругкіх руках, і човен борзда і роўна сьлізгаціць па шырокаму лону спакойнай Прыпяці. Мінуўшы сярэдзіну рэчкі, човен крута верне ў бок Мартына. Мартын сумысля едзе павольна і пільна ўзіраецца ў затокі, дзе любяць жыраваць качкі, і не глядзіць на човен з дзяўчынаю, хоць ужо ведае, хто на ім плыве. Але яму прыемна.

— А я табе ўсіх качак папужаю — чуецца малады звонкі голас, і сьледам за гэтым даносіцца яе крык.

— А ты-га! а ты-га, качкі!

Гучны плеск вясла па вадзе павялічвае шум і гулка разносіцца па рэчцы між травяністых берагоў. І сапрўды некалькі качак узьняллося з затокі, і сьвіст іх быстрых крыльляў выразна чуваць у паветры. Качкі ляцяць якраз на Мартына. Мартын цэліцца Гулкі стрэл коціцца па Прыпяці і глухне ў прыбярэжных травах і чаротах. Адна качка хіснулася, нырае ўніз, няёмка махае аслабелымі крыльлямі, апісаўшы дугу, раптам шлёпаецца ў ваду.

Аўгіня спрытна паварочвае свой човен. Уся яе гнуткая хвігурка ходзіць ходарам, а на вадзе з боку чаўна пасьля кожнага ўзмаху вясла кружацца віркілечкі з ціхім, залівістым шапатаньнем. Мартын раптам скідае з сябе павольнасьць. Абагнаць Аўгіню, апярэдзіць яе і першым даплыць да забітай качкі. Гнецца вясло пад яго магутнымі наляганьнямі і човен, як шалёны, імчыцца да акрэсьленага пункту. Але Аўгінін човен рушыў з болей блізкай дыстанцыі. Шансы даплыць першай на яе старане. Мартын пачынае каяцца, што ўступіў у спаборніцтва з ёю Ды адступаць ужо позна, і не такі ён чалавек, каб бясьсільна палажыць вясло і прызнаць сябе пераможаным. Зьнімае пільчак, кідае на мокрае дно чаўна. Яшчэ болей крута выгінаецца яго вясло, яшчэ шпарчэй разразае ваду вострансы човен. Аўгіня бачыць, што верх бярэ Мартын. Ей нават робіцца ад гэ тага весела яна мала што траціць, калі верх возьме ён, бо ў яго сілы ня меней, як у добрага вала. Ды надзеі ня траціць яшчэ і яна. Часьцей замільгала вясло ў яе спрытных руках. Твар яе расчырва-





неўся, як макаў цьвет. Дзьве доўгія цёмна-русыя косы выбіліся з-пад чырвонай хустачкі, і калі яна налягае на вясло і адкідаецца назад, то канцы яе кос апускаюцца на ваду. Забітая качка ўжо недалёка. Нейначай, як Мартын падбярэ яе. Аўгіня пускаецца на хітрасьць: яна крута верне свой човен на перарэз Мартынаваму чаўну. Замінка. Не пасьпеў Мартын і падумаць, каб абмінуць гэту перашкоду, як на іх вачох здарылася цікавая праява: качка раптам правалілася ў ваду, а на тым месцы вада ўзьнялася, як-бы яе штурхнула штось зьнізу, закалыхалася і роўнымі кругамі пабегла да самага берагу.

— Мартын! дзе-ж качка?

У Аўгініных вачох адбіліся страх і зьдзіўленьне.

Паглядзеў на яе Мартын і засьмяяўся.

— Ні ты, ні я не даплылі, а качку сом схапіў! Момант Аўгіня маўчала. Відаць, гэта здарэньне яе моцна ўразіла.

— Паедзем Мартын, назад!

Павярнулі чаўны, прытулілі іх бокам адзін да аднаго і паплылі на свой бераг.

— Ты мусіць злуешся на мяне, што я папужала табе качак.

— Не, ня злуюся. Мала што бывае.

— Ну я-ж хацела на цябе паглядзець.

Мартын і сапраўды не злаваўся на яе.

Апошнія-ж яе словы ўлагоджваюць яго.

Але прыпамінаецца казьліная барада. Яна робіць Мартына чэрствым і абыякавым.

— А чаго на мяне глядзіш? — пытае яе.

— Ну, бо ты харошы, — адказвае Аўгіня і цягне яго сваімі заваблівымі вачамі.

— Для цябе, здаецца, усе харошыя, — з адценьнем насьмешкі заўважвае Мартын.

— А хіба гэта ня добра?

— Ня ведаю.

— Але ты лоўкі стралок, — мяняе гутарку Аўгіня. Мартын хацеў-бы весьці пачатую гутарку далей, і зьмена тэмы яму не падабалася.

— Хто з стрэльбы добра страляе, а хто вачамі.

— А хто страляе вачамі?

— Ёсьць такія стральцы.

— Але ж вачамі качак не настраляеш, — заўважвае Аўгіня.

— І качак імі не страляюць.

Аўгіня сьмяецца.

Каб ты быў качкаю, то я цябе ўжо многа разоў застрэліла-б.

Мартын хацеў прызнацца, што калі ён і не застрэлены, то зьлёгка падбіты, але замест гэтага нечакана для сябе і для Аўгіні заявіў:

— Я прыду да цябе сёньня вечарам.

Аўгініна сэрца крыху паскорыла тэмп.

Ну, што-ж, буду чакаць.

Чаўны падплылі да берагу. Мартын падцягнуў наўперад Аўгінін човень, потым свой. Прывязаў іх, узяў вязку сена, Аўгіня сноп чароту і пайшлі.

Усё добра, пакуль ня стрэўся Кандрат Бус. Відаць ён падкаравульваў Аўгіню. Як толькі яны параўняліся з ім, Кандрат падышоў

да Аўгіні. Аўгіня палажыла руку на плячо Кандрату, Кандрат на яе плячо і пайшлі, як ні ў чым ня бывала. Мартын плёўся ззаду, з вязкаю сьвежай травы, з стрэльбаю і забітымі качкамі. Хацеў кінуць траву, ды няёмка паказаць сваю злосьць. Падышоў яшчэ.

— Вазьмі, Аўгіня, траву, а я тут агародамі пайду.

Не пазіраючы Аўгіні ў вочы, аддаў ёй траву, а сам пашыбаў у свой двор.

Вечарам Аўгіня чакала яго, але Мартын не прыйшоў.

І шмат было такіх спатканьняў і такіх гутарак. Шукала яго наўперад Аўгіня, потым шукаў Аўгіню Мартын, потым шукалі яны адзін аднаго. Бывалі паміж імі звадкі, непаразуменьні, бывалі і прыемныя хвіліны згоды. Былі слаўныя вечары іх блізкасьці і дружбы — хіба ня можа быць дружбы паміж мужчынай і жанчынаю? Людзі не адзін раз у такіх выпадках прыкрывалі дружбаю нешта большае чым дружба.

І вось у той час, калі вепраўскія хлапцы страцілі надзею на Аўгіню, а вепраўскія дзяўчаты на Мартына, у Вепрах пачаў паказвацца Васіль Бусага. Завабілі і Васіля Аўгініны вочы. Мартынава сэрца забіла трывогу. Васіль — супарат небясьпечны.

Мартын – бабыль. Маленькі дворык, крывенькая хата. Што ёсьць у Мартына? Стрэльба, рыбацкая снасьць ды прыгожая постаць. Крапіўся Мартын, падражніваў Аўгіню Васілём.

Аўгіня падсьмейвалася з Васіля, але часамі і пахвальвала яго, ды шчыльней тулілася да Мартына. Відаць, ёй проста шкода было яго.

Яшчэ праз колькі часу казаў Аўгіні Мартын:

— Няма ў цябе сэрца, Аўгіня... Ты нягодная і няшчырая. На што ты мне лгала? На што зводзілі мяне твае вочы?

— Што ты маеш да маіх вачэй, Мартын? — з дакорам пытала Аўгіня. — Я любіла цябе і цябе люблю... І буду любіць, — памаўчаўшы дадала.

— І гэтыя словы ты скажаш Васілю?

— Не. Так я не скажу яму, а калі і скажу, то так сабе.

— Дык на што-ж ты ідзеш за яго?

— Так трэба, — ціха і няўпэўнена гаворыць Аўгіня. Мартын маўчыць, думае. Васілёва багацьце — вось што прычына. Але ён хоча дацяць Аўгіню.

— Няўжо-ж ты пасьпела так блізка сыйсьціся з ім і... загрубела? — Што было ёй казаць яму? Гаварыць, што ніякай блізасьці ня было? А можа прызнацца ў тым, чаго ня было? Не, гэтага яна ня зробіць?

— Ох, як цяжка мне, Мартын. Я — вораг сабе і табе. А блізкасьці ніякай ня было, ня было, Мартын, павер мне. Я нягодная, злая: ты сказаў праўду.

Яна туліць гарачы твар свой да яго шчакі. Ён бярэ яе на рукі, як дзіця. Яна абхватвае яго рукамі за шыю, прынікае да яго твару.

У Мартына, як у п'янага, кружыцца галава, холад і лёгкая дрыгата прабягаюць па яго целу.

У апошні раз пасьля гэтага пытала Аўгіня:

— Цяпер ты верыш мне?

Ён абнімаў яе, цалаваў і шаптаў:

— Аўгінька мілая, любая.

— Адкасьніся ад мяне ідзі прэч.

Што здарылася з ёю?

Яна злосна адштурхнула яго ад сябе і пашла. А ён недаўменна стаяў, пазіраў ёй у сьлед. Яна зьлілася з цемрадзьдзю ліпеньскай ночы. Мартын пайшоў ў свой бок.

Лёгка і пуста было ў яго галаве.

Вышла Аўгіня замуж за Васіля Бусага. Жаніўся Мартын, узяў сінявокую Грабараву Еву, сталую, зграбную дзяўчыну і разумную.

Але Аўгініны вочы глыбока запалі ў яго мысьлі і сэрца. І ня можа Мартын пазбавіцца іх чараў аж да гэтага дня.

Мартын і Аўгіня рэдка сустракаліся пасьля таго, калі Мартын быў жанаты, а Аўгіня была жонкаю Васіля Бусага. І гэтыя спатканьні іх кожны раз хвалявалі. І яна і ён адчувалі разам недарэчнасьць такіх спатканьняў, але сэрца не хацела слухаць довадаў розуму.

І запытаў раз Мартын Аўгіню:

— А помніш, Аўгіня, як гналіся мы, каб першаму даплыць да забітай качкі. А качку глынуў сом. Ні ты, ні я не даплылі да яе.

Аўгіня толькі ўздыхнула.

*Якуб Колас.*

---

М. МАШАРА

* * *

Даўно мінулі сенакосы,
Ляжыць трава ўжо у стагох
Даўно ня звоняць з песьняй косы
На сенажацях і лугох.

Пад горла сьцятае калосьсе
Даўно ўжо зьвезена з палёў,
І столькі суму завялося
На вішняку каля платоў.

І не шумяць кусты сівыя
На ўзьмежках з ветрам лебяды,
Стаяць, зусім як няжывыя,
І вербалозы і сады.

Ты ня пытай пра ураджаі,
Пра ячмяні і пра авёс. —
Плывець нуда аж да адчаю
Ад голых межаў і палос.

Гразі на вулках па калена...
Імгліць ад раньня да начы...
І думкі цягнуцца нясьмела,
І сумна, сумна на душы.

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

## Восень.

Восень, восень... восень...
Гаманілі дрэвы.
Ня шуміць калосьсе
шумам і напевам.

Не жартуе ў полі
вецер з васількамі...
Голыя таполі...
У сэрцы нібы камень.

Хутка панад лесам
хмары косы зьвесяць,
зорную завесу
не расхіліць месяц.

Ды вярнуцца мусіць
вогненая сіла,
што для Беларусі
з сонцам закацілась!

---

# Успаміны аб Коласу.

Летам 1907 году, зайшоўшы ў рэдакцыю „Нашай Нівы" на Завальнай вул. ў Вільні, пабачыла я бледнага, худога хлапца з сумным паглядам.—„Хто гэта ў Вас з вачамі мучаніка"? — пытаюся ў рэдактара Уласава. Ён расказаў, што гэта вучыцель Міцкевіч, з каторым ён пазнаёміўся ў цягніку, і ў якога адкрыў поэтычны талент. Наступным разам Уласаў пазнаёміў мяне з Коласам. Мы часам спатыкаліся — ён заходзіў да нас, а калі я выехала з Вільні — мы пачалі перапіску, каторая цягнулася да 1917 году. За гэтых 10 гадоў мы некалькі разоў бачыліся з Коласам у Вільні і ў Менску.

Зімой 1907 году некалькі чалавек, — у гэтым ліку Колас і я, — згаварыліся паехаць Калядмі ў Пецярбург агледзіць сталіцу. На ўмоўлены час зьявілася на зборны пункт у Вільні толькі дваіх—я і Коляс. Пастанавілі ехаць хаця ў дваіх. Я зайшла да знаёмай курсанткі В., праводзіўшай Каляды ў Вільні, атрымала ад яе ліст да гаспадароў яе памешканьня ў Пецярбурзе, каб Колас мог там заняць яе пакой. Рабілася гэта ня толькі дзеля ашчаднасьці: Колас, будучы пад сьледзтвам, ня меў права выяжджаць з Вільні, і мэльдунак у готэлі ў Пецярбурзе гразіў яму прыкрасьцямі.



Ганна Міцкевічыха.
**Матка Я. Коласа ў веку каля 70-х гадоў.**

Увесь час нашага быцьця ў Пецярбурзе (чатыры дні) былі сільныя маразы. Калі я адвячоркам па дарозе дамоў заходзіла ў краму, дык ніяк не магла разборчыва сказаць, што мне патрэбна — так настываў у мяне язык. Мёрз і Колас. Але гэта не псавала нам гумару і мы часта сьмяяліся. Помню, першую раніцу прыходжу я ў зоолёгічны музэй. У салі пры ўваходзе сярэдзіна агароджаная бар'ерам і над ей падвешаныя косьці мамана. У глыбіні салі за падвойным бар'ерам бачу Коласа, каторы выглядае маленькім пры вялізарных экспонатах музэю. Іду навокал і не знаходжу яго там — бачу, а маленькі Колас стаіць там, дзе раней была я, із ноў далёка ў глыбіні аграмаднай салі за падвойным бар'ерам... Сьмех. Толькі што адыходзім мы ад шафы з паліпамі, ідзе таўстая дама з дзяўчынкай і паказываючы на шафу з аплёмбам заяўляе: — „а гэта розныя травы"...— сьмех.

Раніцамі мы спатыкаліся на ўмоўленым месцы, у якім небудзь музэі, каторы аглядалі; пасьля абедалі ў Народным Доме. Пасьля абеду аглядалі места; два разы былі ў Опэры Народнага Дому. Раз

бясплатна, на бальконе як людзі, каторыя зьведываюць Народны Дом. У густым натоўпе трудна было што небудзь бачыць і чуць. Таму другі раз ужо з платнымі білетамі ў партэры слухалі опэру „Русалка".

Праваднікам па сталіцы быў Колас. Ён падходзіў да кожнага гарадавога на варце, распытываў як куды выйсьці і вёў пасьля мяне, хвалячы гарадавых і прыношаную імі карысьць Нас асабліва сьмяшылі гэтыя гутаркі з паліцыяй нелегальнага Коласа. Раз, між іншым, узялася вясьці я. Ішлі мы ў Народны Дом, на опэру. Вадзіла я свайго спадарожніка аж да ўтомы, запутаўшыся ў даўгіх і пустых „Мешчанскіх" вуліцах. Доўга не хацела здавацца; наканец з сорамам прызналася, што ня выпутаюся. Узялі мы возьніка. Той правёў нас за вугол і стаў перад Народным Домам.

Колас едка гавора, што білеты на опэру я напэўна пакінула дома. Кажу яму, што рэдка пакідаю білеты дома; часьцей яны аказываюцца зданымі ў бібліётэку разам з кнігай. Але, білеты, на нашае зьдзіўленьне, знаходзяцца, і мы шчасьліва праходзім на месцы.

Колас раскашуецца ў ролі буржуя, забыўшыся нават пра боршч, узбурыўшы яго да глыбіні душы. Было гэта так. Мы пастанавілі разгуляцца і заместа звычайных танных абедаў узялі абеды найдаражэйшыя — па рублю.

І вось прыносяць нам „боршч" — празрыстую, ярка чырвоную, ідэальна працэджаную жыжку. Колас яе і мяшаў і пераліваў, і ягонаму ўзбурэньньню ня было канца — „і гэта боршч?!..." Нават, калі мы пасьля абеду глядзелі праз агарожу на Таўрычэскі палац на фоне яркага захаду, Колас ізноў кляне – „захад, як боршч"! Лёс аднак прыгатаваў яму яшчэ горшую штуку з пецярбурскай ядой. У апошні вечар перад выездам Колас ізноў гуляе: купляе „пірожные" і чакае мяне з гарбатай на сваім памешканьні. Як на грэх, я падарозе да яго ізноў заблудзіла і пераняўшыся, што выехаць трэба канечна а ня ўдасца дзеля мяне, — забылася назоў яго вуліцы. Паблудзіўшы доўгі час, я наканец явілася да Коласа. Застала яго хворым і ўзбураным „чортавай галушкай" горш, чым боршчам. Аказываецца, пабачыўшы, што мяне няма, а пара выяжджаць на станцыю, ён зьеў адно з „пірожных" і паважна ім атруціўся, рэшту выкінуў у памыйнае вядро, а зьедзеную „галушку" доўга кляў, напэўна і дагэтуль яе помніць.

Ярка астаўся ў маей памяці першы вечар у нас у Вільні пасьля падарожжы ў Пецярбург. У нас быў госьць русак Е. Між ім і Коласам пачаўся спор. Е. нападаў на беларускую мову і ўсю „затею" з Беларусьсю. Колас зморагы з дарогі, ціхі і сумны вельмі слаба бараніўся. Атрымалася прыкрае ўражаньне. Запанавала цішыня. Колас падсеў да раялі, пачаў наігрываць двумя пальцамі, пасьля запяяў адну сваю песьню, другую. І вось Е. падходзіць да Коласа, цісьне яму руку, заяўляе, што ён мыляецца, што ён цяпер толькі зразумеў і глыбака адчуў красу беларускай мовы, яе значэньне і неабходнасьць.

Як мне жаль, што я так мала магу сказаць аб Коласе, адносна каторага вось ужо 30 гадоў нашу прыяцельскае пачуцьцё. У палітычных яго выступленьнях я ня брала ўдзелу, за што мяне „огаркі" празвалі „шапёркай". Пакінутыя ў мяне газэты з ягонымі вершамі прапалі ў часе вайны. Сшыток з ягонай паэзіяй зачыталі добрыя людзі; з тоўстай пачкі ягоных лістоў да мяне ад 1907 да 1917 году асталіся толькі два, ды 3 адкрыткі.

Гэтыя мае ўспаміны ў лёгкім жанры могуць стварыць уражаньне нашай непаважнасьці і лёгкадумнасьці, а ў сапраўднасьці мы былі занадта паважныя, занадта прасякнутыя грамадзкімі справамі, працай у школе, самаадукацыяй, гарэлі і многія згаралі.

Колас працавіты. ціхі скрыты, скромны, ня кідаўся ў вочы, будучы сярод людзей ганарыстых, адыходзіў, хаваўся ахвотна ў сваю шалупіну. Але хто яго раз заўважыў і зразумеў, той назаўсёды прывязываўся да гэтага мілага, простага чалавека з ціхай гаворкай, з мілай жартаўлівасьцю, з прыяцельскімі адносінамі да людзей. У мяне на сумленьні многа грахоў адносна Коласа. Занятая сваім жыцьцём, часта забывалася я аб ягоных просьбах з турмы; магчыма гэта яшчэ збольшывае маё жаданьне пабачыцца з ім цяперашнім, успомніць старое, пагаварыць аб новым, зьвязаць парваную нітку знаёмства. Як-бя не зьмяніла нас жыцьцё, я знаю, што ў новым Коласе ёсьць той, каторага мы зналі, паважалі і любілі некалі.



Якуб Колас.
Фатаграфія з 1908 г.

Як шкада, што ня можна зафіксаваць постаць жыва стоячую ў памяці. Часам так ясна ўспомніцца Колас, у шэрай барашкавай шапцы і з такім-жа каўняром, з сумнымі вачыма на бледным твары. Глядіш на фатаграфію — зусім ня тое, зусім ня Колас. Нават на лепшай з фатаграфіяў, падараваных ім мне, дзе ён ў цёмнай кашулі з гвозьдзікам. заместа згубленага перад фатаграфаваньнем гузіка ў каўнерыку, — і там ён не падобны, так, як-бы хацелася.

Магчыма цяпер фотографы сталі лепшыя, і нам удасца дастаць падобную да арыгіналу фатаграфію; а мо' Колас натолькі нефотогенічны, што глядзець на яго трэба толькі ў натуры?..

*А. Р.*

---

НІНА ТАРАС

* * *

І расьцьвітала па вёсках і сёлах
Лёгкатуманная жоўтая восень.
Чула я песьню — была невясёла —
Раз толькі, болей пачуць ня прышлося.

Эх-жа, вярніся, вярніся з дарогі,
Ночкаю цёмнай з дарогі далёкай!
Ці не шкадуеш няволі вастрогу,
Роднае вёскі... сваей сінявокай...

Лісьце, бы сьлёзы, з дрэў ападала,
Гэткае жоўтае лісьце у вечар,
Вецер начамі таптаў іх нямала
З песьняй тужліваю і недапетай.

Эх-жа, вярніся, вярніся з дарогі,
Ці не шкадуеш сваей сінявокай...
І абарвалася песьня ў прасторы,
Быццам з зламанымі крыльлямі сокал.

Плакала неба дажджом каласістым,
Сонныя хмары блудзілі ў прасторы,
Толькі іначай шумячыя лістам
Кідалі вербы свае разгаворы.

Прыйдзе, казалі, зялёнай вясною
Песьняй вясёлай, бы звонам, ударыць—
І не адзін ён, прыдуць грамадою,
Чорныя хмары пажарам распаляць.

Ды ня сумуй ты, дзяўчына, у горы —
Прыйдзе ён пэўна к сваей сінявокай...
А там дарогі, палі і разоры
Беглі за лесам далёка, далёка...

---

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

## Маладым поэтам.

Вам дадзелі пакора, цярплівасьць і Бог,
як жабрак, Вы па шчасьце ня цягнеце жмені,
вершы Вашыя пугамі б'юць па людзёх,
агнявымі маланкамі паляць сумленьні.

Я-б хацела гарэць і змагацца, як Вы,
разам з Вамі каваці чаканае раньне,
але дні мае іншыя маюць правы:
сыпкім золатам ліпаў маняць і цыгяняць.

Мае дні над аржоньнем цьвітуць туманом
і плывуць серабраным у даль павучыньнем,
і зьвіняць алавяным, асеньнім дажджом,
і ў лясох верасамі мядзянымі стынуць.

Я, як жоўтая восень, стаю над жыцьцём
і гляджу на яго, хоць наўкола — змаганьне.
Мае вершы — над сонным балотам трысьцё,
мгла сівая асеньняга раньня.

---

Рэдактар - Выдавец: Ф. СТЭЦКЕВІЧ.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вуліца 13.

# А ў полі вярба.

*(Народная)*

Гарм. А. СЬВЕШНІКАВА.

Сьпеўна, але рытмічна.

С. А ў по-лі вяр---ба, пад

А. А ў по-лі вяр--ба, пад вяр--

Т.

Б.

вяр-бой ва--да: Там ха-дзі ла, там гу-ля-ла

бой ва--да: Там ха дзі-ла, там гу-ля-ла

Там ха дзі-ла, там гу-ля-ла




дзеў - ка ма - - ла - - - да.

дзеў - ка ма - - ла - - - да. Там ха - дзі - ла,

там гу - - ля - ла дзеў - ка ма - - ла - - - да.

дзеў - ка ма - ла - - - - да.

ма - ла - - да.

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада;
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.

Дзеўка ад вады,
Хлапец да вады:
—Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады.

— Рада-б пастаяць,
Каню вады даць,
Мае босенькія ножкі
Студзёна стаяць.

